*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 35(420)** **1 ВЕРАСНЯ 1999 г.**

Шаноўныя беларускія школьнікі, студэнты, настаўнікі, выкладчыкі і ўсе работнікі адукацыі! Сакратарыят ТБМ імя Францішка Скарыны і рэдакцыя газеты "Наша слова" сардэчна віншуюць усіх вас з пачаткам новага навучальнага года. Мы жадаем вам плённай працы на карысць Беларусі вольнай і незалежнай.

## Улады спужаліся пікетаў ТБМ

1 верасня ў Менску пройдзе пікет, 8 верасня мітынг арганізаваны Сакратарыятам і Менскімі арганізацыямі ТБМ у абарону беларускамоўнага навучання, за адкрыццё Нацыянальнага універсітэта і супраць перайменавання праспекта імя Францішка Скарыны.. Усваю чаргу Сакратарыят ТБМ прапанаваў нізавым структурам па ўсёй Беларусі правесці аналагічныя пікеты і мітынгі. Але не ўсюды яны адбудуцца. На момант падрыхтоўкі газеты да друку рэдакцыі стала вядома, што ў Горадні і Лідзе мясцовыя ўлады забаранілі гэтыя мерапрыемствы. Уадказе старшыні Лідскага гарвыканкама Уладзіміра Мальца ад 25. 08. 99 за № 263 даслоўна напісана наступнае: ***"Грамадзяніну Судніку С. На Вашу заяву ад 16.08.99 г. паведамляем, што на падставе артыкула 5 часткі 3 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні" гарадскі выканаўчы камітэт дазволу на правядзенне пікетаў 01.09.99 г. і 08.09.99 г. не дае. Старшыня гарвыканкама У.М.Малец".***

У гэтым страшным артыкуле ўказана, хто мае права падаваць заяўку, калі, што ў ёй павінна быць указана. Фактычна ніякіх сур'ёзных аргументаў для адмовы ўлады не мелі. Адмовілі і ўсё. Сакратарыят ТБМ рэкамендуе кіраўнікам лідскай і гарадзенскай арганізацый падаваць на вертыкаль у суд. Але паколькі суд заведама будзе хуткі і не справядлівы, пытанне падачы зыску будзе вырашацца ў адпаведнасці з мясцовымі ўмовамі

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментар Язэпа Палубяткі*

Ведаю, што ў нас можна трапіць у пастарунак за тое, што па вуліцы са сцягам ідзеш альбо размаўляеш на дзяржаўнай мове.

**Франц Корзун,10.08.99.**

*Мяне вельмі хвалюе, што на Беларусі знікае яе мова. Мова народа – гэта душа. Знікае мова, знікае і народ. На жаль, нашы цяперашнія ўлады робяць шмат чаго, каб Беларусь не была беларускай. І ў гэтым ім дапамагае праваслаўная царква. Каб наша мова не загінула, трэба ў першую чаргу размаўляць з Богам на матчынай мове. Беларусы не маюць магчымасці гэтага рабіць.*

***Пенсіянерка, Несвіж.***
***Навіны 17.08.99г.***

А пераклады на беларускую мову маюць падвойнае значэнне. Па-першае, любому аўтару заўсёды цікава пабачыць пераклад сваіх твораў і прыемна, калі яго перакладаюць. А па-другое, такія пераклады ўваходзяць у субстанцыю беларускае літаратуры, еўрапеізуюць яе.

**Сакратар Яновіч.**
**"Наша Ніва" 16.08.1999г.**

*Як правіла гэта досыць стандартны набор аргументаў, які ўключае ў сябе наступныя пазіцыі: першае, проста неэтычна паўсюль і заўсёды паслугоўвацца беларускай мовай, "бо гэтага не разумее народ".*

***Валерка Булгакаў***
***"Наша Ніва" № 19. 16.08.99г.***

Каментар: у артыкуле гутарка ідзе пра міт адносінаў насельніцтва Беларусі да шэрагу беларускіх дзеячоў.

Што можна сказаць аб тых рускіх людзях, якія стаялі ў пікетах і патрабавалі надаць рускай мове статус дзяржаўнай на Беларусі? Фактычна патрабавалі знішчыць беларускую мову, значыць, знішчыць нацыю.

**Валянціна Ліпская**
**"Народная воля" 18.08.99г.**

*Як правіла малая краіна станавілася або калоніяй імперыі, або "растваралася" ў яе абшарах, канчаткова губляючы сябе як нацыю, народ – разам з культурай, мовай.*

***Мікола Кутнявіцкі***
***"Народная воля" 19.08.99г.***

## Падзяка "Рабочаму"

5 жніўня 1999 года газета Свабоднага беларускага прафсаюза "Рабочий" 100-тысячным накладам надрукавала на першай паласе наш Зварот да беларускіх рабочых, за што мы шчыра ўдзячны галоўнаму рэдактару газеты Віктару Івашкевічу.

Актывісты ТБМ дапамаглі распаўсюдзіць гэты нумар прафсаюзнай газеты на прадпрыемствах г.Менска, Горадні, Жлобіна, Пінска, Жодзіна, Віцебска, Ліды і іншых гарадоў.

***Сакратарыят ТБМ.***

## Працягваецца падпіска за адкрыццё Нацыянальнага універсітэта

22 подпісы сабраны ў Менску,
22 подпісы сабраны ў Лідзе,
8 подпісаў сабрана ў Дзятлаўсім раёне.

## Ахвяраванні на ТБМ

Шкірманкоў Ф.У. (Слаўгарад) - 1.000.000 руб.
М.В.П. (Менск) – 400.000 руб.
Палсцюк Валеры (Менск) – 300.000 руб.
Сафро Марыя Залманаўна (былая настаўніца бел.мовы СШ № 2 г.Пінск) – 500.000 руб.
Прыхільнікі ТБМ з вёскі Дуброва на Гомельшчыне – 200.000 руб.
Васіль Кажан (ЗША) – 60 $
Фонд імя Крычэўскага (ЗША) – 100 $
Будаўнік з Менска – 50 $
Грушавы Генадзь (Менск) – 100 DM

## Шаноўныя чытачы "Нашага слова"!

З вялікім шкадаваннем мы паведамляем вам, што зусім нечакана рэдакцыя вымушана падняць цану на газету на ІУ квартал 1999 года. Справа ў тым што 27 жніўня мы атрымалі з "Белпошты" паведамленне аб павелічэнні кошту паштовых паслуг у ІУ квартале на 66%. Для нашай газеты гэта абазначае, што з кожных 40 000 рублёў, што мы атрымоўвалі за падпіску аднаго асобніка ў месяц больш 25 000 пойдуць "Белпошце". Дастаткова заплаціць падаткі, і на выданне самой газеты не застаецца нічога. Разам з тым сабекошт аднаго асобніка складае 20 000, за месяц гэта 80-100 тысяч рублёў. Не цяжка палічыць, што падпіска на месяц павінна быць не менш 120 000. За кошт ахвяраванняў і дапамогі Сакратарыяту мы падымаем кошт падпіскі толькі да 60 000, за што шчыра просім прабачэння.

Разам з тым яшчэ не сказала свайго слова друкарня, дзе цэны на друк растуць прыблізна раз у два месяцы. Цэны ж на паперу растуць штодзённа разам з курсам долара, бо ўся папера імпартная.

Па інфармацыі Гарадзенскага абласнога аддзялення "Белпошты" браць даплату з тых, хто ўжо паспеў падпісацца, не плануецца. Хаця не выключана самадзейнасць некаторых мясцовых аддзяленняў сувязі.

Даводзім таксама да ведама, што за дастаўку датацыйных (дзяржаўных) СМІ "Белпошта" цану не падымае. Відавочна, што ўзяты курс на эканамічнае ўдушэнне недзяржаўнай прэсы.

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865**
(індэкс выдання)

**НАША СЛОВА**
(назва выдання)

На 1998 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на газету/часопіс **63865**
(індэкс выдання)

**НАША СЛОВА**
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 180000 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча,ініцыялы)

№ 35(420) 1 ВЕРАСНЯ 1999 г. НАША СЛОВА

# ЦІ ПАТРЭБНА БЕЛАРУСАМ РОДНАЯ МОВА?

***"Вядома, не",** – адкажа пераважная большасць насельнікаў Беларусі. Дык давайце паразважаем разам, чаму беларусам не патрэбна іх родная мова?*

Найперш, відаць, прычына ў тым, што амаль нікога гэтае пытанне не хвалюе. А чаму так?

"Дзе любоў, там і Бог", — сцвярджае Біблія. Значыць, за гады савецкай улады адвярнулі нас і ад роднай мовы, і ад рэлігіі. Лозунг камуністаў "Росквіт і зліццё нацый" і зараз працягвае сваё шэсце па нашай зямлі. Каму ж выгадна "зліваць" нацыі? Тым краінам, якія можна назваць імперыямі. Да іх адносіцца і Расея, якая пастаянна з некім ваюе за свае інтарэсы. З Беларуссю ж можна ваяваць вось як: выхоўваць нацыянальную абыякавасць, пагарду да свайго, роднага, крэўнага, дарагога. Некалі паэт Ніл Гілевіч сказаў, што беларусы вызначаюцца "самаедствам". Хто смяецца са сваёй мовы? – Беларусы. Хто хіліцца да чужога, а не да свайго? – Беларусы. Дык што, мы ўкралі нешта ў людзей, каб баяцца, адракацца ад свайго?

***Чаго вам хочацца, панове?***<br>
***Які вас выклікаў прымус***<br>
***Забіць трывогу аб той мове,***<br>
***Якой азваўся беларус?***<br>
***Чаму вам дзіка яго мова?***<br>
***Паверце, вашай ён не ўкраў,***<br>
***А толькі ўспомніў сваё слова,***<br>
***З якім радзіўся, падрастаў..,-***

пісаў Я.Купала ў вершы "Ворагам беларушчыны". "Дзікая" мова беларуская для тых, хто марыць, што Беларусь, як "акно ў Еўропу" для Расеі, хутка стане яе часткай. А для гэтага патрэбна асіміляваць беларускую нацыю: паўсюдна ўводзіць рускую мову і сцвярджаць, што яна і прыгожая, і прыстойная, і чалавечая, а беларуская мова – нявартая ніякай пашаны. А ці так гэта? Скажыце, ці ёсць у беларускай мове "матныя" словы? Няма. Усе яны прыйшлі з рускай мовы. І гэтая пошасць пашыраецца зараз з неймавернай хуткасцю. Мы можам пачуць "нецэнзуршчыну" амаль паўсюдна. Хаця настаўнікі беларускай мовы вучаць дзяцей высокай паэзіі. Сярод паэтаў Беларусі пачэснае месца адводзім М.Багдановічу і Я.Купалу. Так, настаўнікі беларускай мовы прысутнічалі на ўроку ў школе №2 г.Слоніма, дзе настаўніца Р.К.Міжурына правяла з дзецьмі ўрок па тэме "Водгукі антычных ідэй і вобразаў у лірыцы М.Багдановіча". Р. К. Міжурына пасля гэтага ўрока атрымала запрашэнне на ўдзел у канферэнцыі па тэме "Вывучэнне беларускай паэзіі ў кантэксце сусветнай", якую праводзіў Гарадзенскі дзяржаўны універсітэт. Настаўнік СШ №4 Э. І. Мікелевіч правёў адкрыты ўрок у форме дыскусіі па тэме "Паэзія Я. Купалы і беларускасць". На высокім культурным і мастацкім узроўні дзесяцікласнікі аналізавалі лірыку Купалы, які будзіў "сон" нацыі, як біблейскі прарок. Купала-прарок клікаў беларусаў пастаяць за сябе, за сваю мову, край. Яны ж яму ў адказ: " А колькі нам дасі чырвонцаў, калі мы пойдзем за табой?" Як гэта падобна на сучаснае: "А колькі каўбасы дасць нам ваша беларускасць?". Біблія ж вучыць: "Не хлебам адзіным жыве чалавек, а словам Божым". Настаўнікі беларускай мовы нясуць гэтае слова дзеткам, роднае беларускае слова.

З цікавасцю вывучаюць родную мову і вучні рускамоўных школ горада, я маю на ўвазе 9-ую і 5-ую школы, дзе вучацца, у асноўным, дзеці вайскоўцаў. Мы былі сведкамі таго, як настаўнікі СШ №9 І.М. Старчанка, Г.С.Лапато, СШ №5 Н.М. Навіцкая, З.І.Карповіч змаглі паказаць, як яны асвойваюць тэхналогію развіццёвага навучання ў працэсе вывучання беларускай мовы, як выхоўваюць дзяцей сродкамі роднай мовы. Сапраўднымі патрыётамі роднага слова можна назваць Т.І. Вянсkоўскую (СШ №1) і Н.В.Міхальчэню (СШ №8).

У горадзе аднавіла працу ТБМ. У асноўным, у яго ўваходзяць настаўнікі і бацькі СШ №5 і СШ №10. Настаўніца англійскай мовы А.М.Пыркова выбрана сябрам абласной Рады ТБМ. Мы ўдзельнічалі ў акцыі па падпісцы "Нашага слова" – органа ТБМ, а таксама заказалі малебен 27 чэрвеня па падтрымцы роднай мовы.

Як жа ў нашым горадзе пастаўлены справы з адкрыццём беларускамоўных першых класаў? Можна сказаць, што на нулі. Русіфікацыя працягваецца, яна поўным ходам ідзе ў школы. Чыноўнікі адукацыі спасылаюцца на тое, што няма жадання бацькоў вучыць дзяцей па-беларуску. І калі бацькам ўсё роўна, то трэба, каб настаўніцтва і інтэлігенцыя сказалі сваё слова ў абарону роднай мовы. Хоць "каўбасы" нам мова не прыбавіць, але дасць уцеху для душы і падтрымку ў цяжкую хвіліну. А гэта грунт, аснова моцы чалавечай асобы. Бо хлусня тое, што наша мова бедная. У Біблії напісана: "Хлусня не мае пад сабой грунту, асновы". Вось чаму я хачу звярнуцца праз газету да інтэлігенцыі. рабочых. службоўцаў горада і раёна, каб яны выступілі ў абарону роднай мовы. Толькі пасля нашых намаганняў можна будзе дачакацца таго, што ў горадзе з'явяцца беларускамоўныя першыя класы.

***Таццяна Трафімчык, старшыня Слонімскай гарадской суполкі ТБМ.***

# "На Беларусі Бог жыве!"

*Уладзімір Караткевіч.*

Бывае, у наш складаны і супярэчлівы час, мы забываемся на самаке галоўнае ў жыцці чалавека – на духоўнасць. Гэта менавіта тое, што вылучае яго з вялікай колькасці жывых істот. Гэта тое, што падтрымлівае ў складаную хвіліну і надае ўпэўненасць у заўтрашнім дні. Для тых, хто страціў гэтую ўпэўненасць і каму неабходна падтрымка, хто верыць у будучыню Беларусі і беларускага народа ў Свята-Петра-Паўлаўскім саборы, у Менску, кожную сераду а 17-й гадзіне ідзе служба "Малебен за беларускі народ".

На цудоўнай беларускай мове, адораны Божым дарам духоўнага настаўніка айцец Георгій Латушка служыць "Малебен" з акафістам святым мучанікам Віленскім Антонію, Іяну і Яўстафію.

У спалучэнні з царкоўнымі песьняспевамі, гэта робіць на чалавека такое ўражанне, нібы ён знаходзіцца ў нейкім чароўным Свеце – у Краіне сваёй мары.

Дзякуючы намаганням і адданасці айца Георгія Латушкі, які аб'яднаў і іншых святароў, і вернікаў на малебен прыходзіць усё больш і больш шчырых беларусаў.

У Храме Божым па-сараўднаму адчуваеш, што толькі зварот да Веры можа выратаваць кожнага чалавека па асобку і грамадства ў цэлым.

Магчыма, зварот да духоўнасці дапаможа нам зберагчы нашу Краіну!

***Леванкова А.А. Настаўніца.***

**Павел Сцяцко,**

*доктар філалагічных навук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

***Балавы (паказчык) – а не бальны.*** Слова ***бальны*** стасуецца з назоўнікам ***баль*** *'вечар з танцамі і забавамі'; 'вялікі званы абед'; 'нястомны разгул чаго-небудзь' (рэакцыі, ваеншчыны)*. Напрыклад, ***бальныя танцы***. Ад слова ***бал*** *'адзінка вымярэння сілы або ступені прыроднай з'явы', 'лічбавая ацэнка поспехаў у навучальнай установе, дасягненняў у спорце'* – натуральным ёсць прыметнік ***балавы***: "Былая пяцібалавая сістэма ацэнкі ведаў навучэнцаў цяпер ужо заменена на чатырохбалавую" (Настаўніцкая газета. 21.07.1997).

Нажаль, нашыя слоўнікі пераносяць на свае старонкі расейскія аманімічныя формы і пішуць: ***бальны танец і бальная сістэма ацэнкі ведаў.*** Так, у "Беларуска-рускім слоўніку (Т.1. Мн.,1988.С.171) чытаем: "Бальны І.(прил. к баль) бальный; бальны ІІ.(прил. к бал) бальный; бальная сістэма ацэнкі ведаў – бальная система оценки знаний". А між тым "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.1.Мн.,1977.С.330) засведчыў: "Балавы, -ая,-ае. Які вызначаецца з дапамогаю балаў. Балавая сістэма ацэнкі". На старонцы 335: "Бальны, -ая,-ае. Які мае дачыненне да балю. Бальнае плацце. Бальныя танцы".

Але каб не разыходзіцца з усесаюзным стандартам, дзе розным беларускім утварэнням – бальны і балавы – адпавядае аманімічная ў вымаўленні форма ***(бальный)***, нашыя слоўнікі бяздумна пайшлі таксама на гэтую аманімію, што і засведчыў згаданы БРС-88. Бачым, нажаль, гэтую недарэчнасць і ў згаданым ТСБМ (Т.1.С.335): "Бальный". Які мае дачыненне да бала1. Бальная сістэма ацэнкі ведаў". Але ж ***бал*** у беларускай мове не ўтварае аманімічнай пары, бо мы маем два словы, якія розняцца фінальнымі фанемамі: ***бал*** (з фанемаю ,<л>) і ***баль*** ( з <л'>). Новы "Тлумачаль-ны слоўнік" (Мінск, 1996. С.79) у артыкуле "Бал – адзінка вымярэння" падае аж два прыметнікі ад яго – ***бальны*** і ***балавы*** і ілюструе прыкладамі: "Бальны танец. Сістэма балавай (бальнай) ацэнкі. Але ж прычым тут ***(бальны танец)***? Гэты ж прыметнік ад ***баль***, а не ад ***бал***. Гэта, дарэчы, пацвярджае і сам слоўнік, дзе на 80с. чытаем: "Баль 'вечар з танцамі', прым. ***бальны***. Бальныя танцы". бачым, аўтарка артыкулаў "Бал" і "Баль" у гэтым слоўніку З.М.Кудрэйка механічна перапісала іх з даведніка: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М.,1982.С.34). пра што сведчаць і ілюстрацыі: "***Бал***... Большой танцевальный вечер. Бальные танцы" і ***Балл*** 'единица оценки, силы какого-н. явления. 2. Цифровая отметка успехов (в школе, спорте)// прил. ***балловый*** и ***балльный***". Пры гэтым той самы прыклад з танцамі "яна (каб не "памыліцца") паўтарыла двойчы" (?!).

Але ж у расейскай мове тое, што аўтарка перадае прыметнікам бальны, мае рознае напісанне: ***бальный*** (ад ***бал***) і ***балльный*** (ад ***балл***).

"Русско-белорусский словарь"1993 г. (і яго аўтэнтычнае перавыданне 1998 г.) рас. ***балльный*** перакладае адмысловым словам ***балавы***; ***бальная система – балавая сістэма***; а слова ***бальный – бальны*** (Т.1.Сс.72-73). Як паказваюць матэрыялы гэтага слоўніка, нарматыўнымі мусяць быць: ***балавы*** (да ***бал***) і ***бальны*** (да ***баль***).

Гэтае нормы трэба трымацца і пры выкарыстанні слова ***балавы*** як часткі кампазітаў (складанняў): ***пяцібалавы***, ***сямібалавы*** землятрус.

Здзіўляе ў сувязі з гэтым наступнае сцвярджэнне "Тлумачальнага слоўніка" (Т.1.Мн., 1977.С.335): "...***бальный,-ая,ае***. Другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае: роўны столькім балам, колькі паказвае першая частка гэтых слоў, напрыклад, пяцібальны, дзевяцібальны".

Можна было б размежаваць гэтыя аманімічныя словы – бальны І і бальны ІІ такім шляхам, як гэта бачым у РБС-93: рас. ***бальный*** да ***бал – балёвы***, а ***балльный*** да ***балл – бальны.***

Але ж найбольш паслядоўна стасуюцца якраз утварэнні ***балавы*** (ад ***бал***) і ***бальны*** (ад ***баль***). Бо ***"балёвыя танцы"*** – нязвычна і надта змушана.

***Кіраўнік, спраўца, кіраўнічы – а не ўпраўляючы.*** Слова ***ўпраўляючы*** не фіксуе ніводны беларускі акадэмічны слоўнік. Рас. ***управляющий*** перакладаецца як: ***кіраўнік*** (каго-чаго); ***управляющий делами – кіраўнік спраў*** (РБС-53.С.720); ***управляющий*** 1.прич. ***які (што) кіруе***; 2. сущ. ***Кіраўнік,-ка***, м.(каго-чаго); ***управляющий делами –кіраўнік спраў*** (РБС-93). Няма гэтага слова і ў "Слоўніку беларускай мовы" 1987 года, і нават у двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" 1988-1989г.г., дзе нямала небеларускіх словаў.

Аднак у друку нярэдка бачым: ***упраўляючы*** маёнткам, ***упраўляючы*** жывёлагадоўчымі справамі ў калгасе ды над. Трапляе яно і ў некаторыя даведнікі. Напрыклад, у кнізе "Старабеларускі лексікон. Падручны перакладны слоўнік" М.Прыгодзіча і Г.Цівановай (Мінск,1997) чытаем: "Спраўца – упраўляючы".

Як бачым, гэтае ***ўпраўляючы*** – штучна перанесенае ў беларускія тэксты рас. ***управляющий***, толькі прыстасаванае да беларускае фанетыкі і граматыкі. Звычайна яму адпавядае ў беларускай мове слова ***кіраўнік*** (утварэнне ад ***кіраваць*** – адэкват рас. ***управлять***). На месцы гэтага слова ў старажытнай беларускай мове выкарыстоўвалася і лексічная адзінка ***спраўца***, што засведчана ў згаданым "Старабеларускім лексіконе".

Слова ***спраўца*** – суфіксавае ўтварэнне ад ***справіцца (спраўляцца— 'прымусіць слухацца, падпарадкавацца, адолець, асіліць што-небудзь, перамагчы'*** (ТСБМ.Т.5.Кн.1.Мн.,1983. С.273): ***справ(іцца) –ца – спраўца.*** Суфікс ***–ц-а (-ец)*** быў досыць прадукцыйным у беларускай мове даўнейшага часу і ў XIX стагоддзі; захоўвае сваю актыўнасць і ў наш час ***(атаковец, звыштэрміновец, шараговец, вайсковец, службовец, самапісец).***

Шматзначнае слова ***кіраўнік*** адпавядае наступным расейскім: ***1.Руководитель. глава. правитель: 2. Управляющий*** (БРС-89. С. 601). Каб перадаць адмысловае значэнне рас. ***управляющий,*** некаторыя даведнікі перакладаюць яго так: ***управляющий*** І (прич.) ***кіравальны, кіраўнічы; управляющий*** ІІ (сущ.) - ***кіраўнік, -ка, кіраўнічы, -чага*** (С. Суднік, С. Чыслаў. Расейска - беларускі вайсковы слоўнік. Мн., 1997. С. 219. У такім разе слова ***кіраўнічы*** выступае як субстантаваны прыметнік.

***Амбасада, амбасадар і пасольства, пасол.*** У сучаснай маўленчай практыцы выкарыстоўваюцца не толькі словы ***пасол*** і ***пасольства***, зафіксаваныя слоўнікамі, але і неалагізмы ***амбасадар*** і ***амбасада:*** "Канферэнцыя прайшла на добрым навуковым узроўні. Прысутнічалі прадстаўнікі беларускай абмасады ў Польшчы ды консульства ў Беластоку, аднак слова не бралі" (ЛіМ.7.08.1998г.С.3). "Мікола Вярба ў 1946 г. выехаў у Канаду і адразу ўзяўся за стварэнне беларускага Нацыянальнага Камітэта, набыў вядомасць, як неафіцыйны беларускі амбасадар у Канадзе" (Полымя. 1998.№7.С.279). "5 лютага ў будынку візавага аддзела амбасабады ФРГ адбыўся вернісаж. Пяцёра маладых беларускіх мастакоў... мелі магчымасць прадэманстраваць свае творы гасцям амбасадара." (ЛіМ. 26.02.1999.С.4).

Пазычанае з польскай мовы: польск. ***ambasada 'пасольства';ambosador 'пасол'; 2.пасланец, прадстаўнік.***

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Беларускія праклёны

Чалавечае жыццё скроена так, што ў ім існуе не толькі прыязнасць, добразычлівасць, ветлівасць, але надараецца непаразуменне, непрыязнь. Тады людзі ў адносінах між сабою скарыстоўваюць звычайную лаянку, як апошні аргумент сваёй праваты ці можа свайго бяссілля. Не варта браць да ўвагі той бруд, які можна зараз пачуць паўсюдна. Гэта запазычанасць, хутчэй за ўсё навязанае нам "вялікаю і магутнаю братэрскаю моваю". Для беларускага моўнага асяроддзя яно не характэрнае. Такіх выказванняў пазбягаюць не толькі інтэлігентныя людзі, але іх цураюцца — такое можна назіраць і сёння — старыя дзяды і бабулі дзесьці ў глухой вёсачцы. Брудны расейскі мацюк імі не ўспрымаецца ні пры якіх абставінах.

У беларусаў спакон веку існавала свая сістэма знявагі. І назоў ёй — праклёны. Такая з'ява, як праклёны, у нашай моўнай культуры даследавана мала. Канешне адносіць іх да культуры чалавекаа нельга, бо яны (праклёны) у большасці сваёй выказваюцца людзьмі ўвогуле безкультурнымі, выказваюцца ў гневе з пагардаю да суразмоўца. Якая гутарка можа ісці пра культуру, калі твой апанент жадае табе: ***"Каб з цябе жывога шкуру злупілі (здзерлі)"***. Але паколькі такая з'ява спрадвеку існавала і працягвае існаваць зараз у нашым жыцці, нашай мове, то нельга заплюшчваць вочы і рабіць выгляд, што быццам бы нічога такога няма.

Праклён — пажаданне чалавеку, іншы раз жывёле, нечага кепскага.

Правесці нейкую класіфікацыю праклёнаў цяжка. Цяжка з той прычыны што іх нельга размежаваць, скажам па паходжанні, па форме ці хаця бы акалічнасцях ужывання. Ужываюцца яны пры непрымірымай спрэчцы, іншы раз, нават, бяздумна. Апаненты выгаворваюць, бывае, усё, што трапляецца, як гаворыцца, на язык.

Адно, што неабходна заўважыць, што праклёны — устойлівыя выразы, у якіх выказваюцца непрымірымыя пажаданні канкрэтнай асобе ***(каб табе, каб цябе)***, хіба што за рэдкім выключэннем ***(сабаку сабачая смерць, усяроўна са светам жыць не будзеш)***. Але ў апошнім выразе можна вельмі лёгка ўстанавіць займеннік "ты", не змяніўшы сэнс выказвання. У рэдкіх выпадках не выкарыстоўваецца ***"каб"***. У якасці прыкладаў можна прывесці такія: ***хваробу табе ў бок, ды магіла яго ведае.*** Сустракаюцца праклёны, якія скіраваны на нейкую падзею, хутчэй за ўсё на цяжкае, неўладкаванае жыццё: ***каб яно ўсё балотам стала (заплыло); каб яго пярун спаліў.*** Ды больш новы, што адпавядае нашаму часу: ***каб ты штогод прэзідэнта выбіраў.***

У большай частцы можна неяк акрэслена вызначыць два асноўныя тыпы праклёнаў; у якіх жадаецца штосьці непрыемнае ды благое і тыя, якія нясуць пажаданне смерці. Да першага тыпу варта аднесці наступныя праклёны: ***трасца (ліха) табе ў бок (у жыцці); каб табе дзеці ўсё жыцце так дапамагалі; каб ты скакаў голы; каб усё жыцце пад сябе рабіў; каб ты свайго ценю баяўся; каб табе пярун ногі паперабіваў; каб табе даў Бог дзеравянныя ногі; каб табе даў Бог на старасць торбу, лапці і мяшок; каб ты век збожжа сеяў, мак малаціў; каб ты па прыску скакаў; каб табе рукі адсохлі і адваліліся.***

Як звычай гэтыя праклёны кажуцца ў адказ на нейкае благое дзеянне ці слова суразмоўца і ўдала дапасуюць тэме гутаркі.

Значную частку праклёнаў складаюць праклёны, у якіх выказваюцца свайму непрыяцелю пажаданне смерці ***(каб ты спрог, каб ты землю заскварыў)***. У гэтым выпадку вельмі шмат праклёнаў са словамі ***маланка, пярун, гром*** і ўжываюцца яны значна часцей ад іншых слоў: ***каб цябе маланка спаліла, каб цябе гром забіў на гладкай дарозе, каб цябе пярун застрэліў***. Вышэй прыведзеныя словы могуць быць ужыты ў любым выпадку, у любых выказваннях і сутнасць іх не змяніцца.

Ёсць частка праклёнаў, у якіх канкрэтна вызначаецца тэрмін спаўнення пажадання ды форма яго спаўнення: ***каб ты не перазімаваў; каб ты не вярнуўся; каб ты не дачакаўся другога года; каб ты спяваў апошні раз; каб ты касіў нагамі; каб ты спяваў у воўчых зубах; каб ты рукі згарнуў.***

Існуюць і такія праклёны: ***каб ты рукі склаў; каб ты задушыўся маленькім; каб ты сеў там, дзе дна няма; каб ты голы скакаў.***

У некаторых праклёнах форма спаўнення больш канкрэтызавана: ***каб з цябе жывога шкуру злупілі (здзерлі); каб твае мяса сабакі па свеце цягалі; каб цябе ўздула як гару, каб цябе халера забрала, каб цябе спарыжавала.***

У апошні час сустракаюцца і тэхнічныя праклёны з паўжартлівым зместам. Такія, як ***каб твае дзеці тэлевізара баяліся.***

Напачатку было сказана, што праклёны могуць выказвацца, як людзям, так і жывёлам, жывым істотам. Тут трэба зазначыць, вышэй прыведзеныя праклёны могуць ужывацца амаль што заўжды.

Вельмі часта да большай важкасці выказвання дадаюцца словы ***"Дай Бог ...", "Бог даў ..." ці "Дай Божа..."***

На прыканцы і мне хочацца сказаць усім ворагам беларускага слова, усім хто збыткуе з нашае мовы, чыста беларускае, шчырае пажаданне: ***"Дай Божа, каб у хуткім часе не стала такіх на зямлі нашай!***

***Язэп Палубятка.***

# МАСКОЎСКІ БОТ

У "Нашым слове" да і іншых незалежных газетах часта вядзецца размова пра гаротны стан беларускай мовы, культуры, што мова знікае з ужытку. Як бы улады не хацелі яе знішчыць, у іх нічога не атрымліваецца. Якую можа прынесці нам культуру наш кіраўнік Беларускай дзяржавы, калі ён сам належыць да другой нацыянальнасці, якая можа толькі красці ды махляваць. Што і робіцца на працягу апошніх пяці гадоў. Разбурана эканоміка, сельская гаспадарка ляжыць на лапатках, цэны з кожным днём ляцяць угару. А па Беларускаму тэлебачанні паказваюць, што ўсё добра, эканоміка набірае моц. Але ж толькі Яму нехта перашкаджае.

Вынішчаецца культура, мова, нашыя традыцыі. Нашыя карані вынішчаліся амаль на працягу двухсот гадоў. І толькі дзякуючы нашым продкам мы захавалі ўсё гэта. Хутчэй сканае гэты рэжым (а яму ужо мала засталося) чым нашая нацыя. Толькі ні трэба губляць надзеі. І усім сумленным Беларусам трэба старанна вывучаць нашую матчыну мову. Паглядзіце на цыганоў, яны валодаюць дзвюмя мовамі, захавалі сваю культуру, традыцыі. Яны аказваюцца разумнейшыя за нас і трэба з іх браць прыклад, каб нам як нацыі не ўмерці. А нашым дэмакратам трэба часцей выступаць з лекцыямі, выязджаць у школы, вучэльні і г.д. А не весці спрэчкі, якая вядучая і галоўнейшая партыя. Даўно ўжо трэба аб'яднацца ўсім партыям і сілам супраць аднаго ворага, не так Лукашэнкі, як супраць маскоўскага бота.

Усё гэта сыходзіць толькі ад маскоўскіх спецслужбаў. Толькі яны падтрымліваюць нашага дыктатара. І ўсё робіць дзеля таго, каб захаваць гэты рэжым. Масква глытае ўсе пляўкі, ад Лукашэнкі, як бы быццам не заўважае іх здзек, дзеля захопу нашай тэрыторыі. Вайною не пойдзеш, бо час не той, і тады Захад па-іншаму адрэагуе.

І тое што робіцца цяпер на Беларусі, гэта ўсё прадказваў яшчэ ў 1994 годзе Зянон Станіслававіч, звязана з прыходам да ўлады маскоўскага стаўленіка Лукашэнкі, а гэта ўжо відавочна цяпер (тады кандыдату ў прэзідэнты Лукашэнку, простаму дэпутату далі выступіць на тэлебачанні чытыры гадзіны, а другому кандыдату – другой асобе ў дзяржаве, далі толкі дзве гадзіны). Трэба ж было давесці эканоміку да развалу, што мы і бачым зараз. А потым скупіць нашы заводы. Многія прадпрыемствы знаходзяцца ў руках маскоўскіх дзяльцоў, ці большая палова акцый. Напрыклад, Мозырскі і Наваполацкі нафтаперапрацоўчыя заводы, ды і шмат іншых. Што атрымалася і на Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыцы.

Былы дырэктар Чумакоў (рускі) паклаў на лапаткі фабрыку. Рабочыя працавалі па два дні на тыдзень, а то і наогул па месяцах стаялі, то сыравіны не было, то збыту прадукцыі, тады сабраліся акцыянеры і на агульным сходзе выбралі новага дырэктара спадара Баркоўскага, ён у месячны тэрмін запусціў фабрыку. Знайшоў сыравіну, збыт прадукцыі. Гэта не спадабалася ўладам і яны вырашылі зняць гэтага вумніка. А каб зняць трэба матывы, фабрыка працуе, людзі занятыя на сваіх працоўных месцах. Нікога не скарачаюць як пры Чумакову. Дык вырашылі яго на павышэнне пасlаць, у аблвыканкаме паперамі забаўляцца. Прыём грамадзян весці ды нічога не вырашыць. А на фабрыцы жывыя грошы ў руках круціліся ды і гаспадаром лічыўся, хоць невялічкім, але пры скарбніцы. А ў Гародні вялікім гаспадаром ды без скарбніцы. Як не хацеў ісці з цёплага крэсла, але ж яго вымусілі (кажуць нават пырстрашылі). Ды каб больш такога не паўтарылася, а то могуць выбраць другога такога Баркоўскага. І ўжо на пасаду дырэктара фабрыкі прызначылі спадара Галіча. Ну а той вярнуў усё на сваё месца, як і пры Чумакову.

І мне хочацца звярнуцца да ўсіх грамадзянаў Беларусі, асабліва да рускіх. Паважайце той народ, сярод якога жывяце, яго культуру, традыцыі, мову. Гэта наша Радзіма, Радзіма нашых дзяцей, унукаў. На гэтай зямлі застануцца вашыя магілы. І ад сённяшняга дня залежыць вашая будучыня, лёс вашых дзяцей. Не грэбуйце нашай мовай беларускай. Мова дана Госпадам. Госпад разумее ўсе мовы. Але ж ці разумее нас, беларусаў? Але ж ці разумее тых хто тут жыве.

*Пятрусь Жукоўскі.*
*Слонім.*

# Вынікі перарэгістрацыі арганізацый і суполак Т Б М імя Францішка Скарыны

| №№ п/п | Назва арганізацыі | Кіраўнік арганізацыі | Тэлефоны | Паштовы адрас | Дата перарэг-цыі | Колькасць суполак | Колькасць сяброў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **6. Менская вобласць** | | | | | | |
| 1. | Менская абласная арганізацыя | Банкевіч Генадзь Ул-міравіч | (017) х.252-82-25 | 220014, г.Менск, вул.Бельскага, 61-18 | 27.06.99 | 59 | 1070 |
| 2. | Менская раённая арганізацыя | Кучынскі Валеры Георгіевіч | | г.п.Ждановічы, вул. Садовая, 8а | 14.05.99 | 3 (3) | 36 (36) |
| | Ждановіцкая суполка | н.Дундалевіч Людміла Мік. | | г.п.Ждановічы вул. Садовая, 8а | 14.05.99 | (1) | (11) |
| | Бараўлянская суполка | Мінакова Святлана Анатоль. | сл. 269-64-03 | 223052, п.Лясны, 16-63, Менскі р-н | 14.05.99 | (1) | (15) |
| | Заслаўская суполка "Нашчадкі Рагнеды" | Малаш Юрый Леанідавіч | х.259-53-62 х.246-58-98 | г.Менск, Партызанскі праспект, 91-32 | 14.05.99 | (1) | (10) |
| 3. | Барысаўская суполка | Белы Іван Юр'евіч | сл. 4-48-47 х.6-93-47 | 222120, г.Барысаў, вул.М.Горкага, 71 - 19 | 27.06.99 | 1 | 13 |
| 4. | (Дзяржынская) Койданаўская суполка | Яначкін І. | сл. 283-02-82 х.274-62-68 | 220098, г.Менск, вул.Слабадская, 45-47 | 27.06.99 | 1 | 16 |
| 5. | Клецкая суполка | Князева Часлава Вячаславаўна | (293) х. 54-3-95 сл. 55-0-68 | 222640, г.Клецк, вул. 17 Верасня, 2-5 | 14.05.99 | 1 | 21 |
| 6. | Маладзечынская гарадская аргані-цыя | Бярнацкі Віктар Васільевіч | (01773)х.6-54-91 сл. 2-61-41 | 222310, г.Маладзечна, вул.Вялікі Гасцінец, 129-77 | 14.05.99 | 7 | 103 |
| 7. | Мар'інагорская суполка | Жаўняк Уладзя | (213) 4-34-56 | 222810, г.Мар'іна Горка, вул.Чапаева, 14-1-17 | 14.05.99 | 1 | 6 |
| 8. | Мікуліцкая (вясковая) суполка | Красоўскі Лявон Мікалаевіч | (01715) 52-6-72 | 223310,в.Мікулічы, Бярэзінскага раёна,СШ | 14.05.99 | 1 | 10 |
| 9. | Салігорская гарадская арганізацыя | Мацюкевіч Марыя Сцяпанаўна | сл. 3-15-81 х.3-21-25 | 223710, г.Салігорск, вул.Заслонава, 95-227 | 27.06.99 | 8 | 109 |
| 10. | Смілавіцкая раённая арганізацыя | Кароткі Мікалай Мікітавіч | х.53-6-67 | 223216,г.п.Смілавічы,Магілёўская шаша,1-1 | 27.06.99 | 3 | 19 |
| 11. | Слуцкая суполка | Гарнік Сяргей Уладзіміравіч | | 223610, г.Слуцк, вул.Сацыялістычная, 172-105 | 14.05.99 | 1 | 13 |
| 12. | Стаўбцоўская раённая арганізацыя | Пяткевіч Генадзь Сцяпанавіч | (01717) 4-67-15 | 222660, Стаўбцоўскі р-н, в.Новы Свержань, вул.Зарэчная, 11 | 14.05.99 | 28 (1) | 695 (8) |
| | Налібоцкая (вясковая) суполка | Груневіч Зміцер | 48-4-76 | 222683, в.Налібокі, Стаўбцоўскі р-н, вул.Ліпеньская, 40 | 27.06.99 | (1) | (8) |
| 13. | Смалявіцкая суполка | Каржэўскі Віктар Мікалаевіч | | 222160, г.Жодзіна, пр.Леніна, 21 –85 | 14.05.99 | 1 | 8 |
| 14. | Жодзінская гарадская арганізацыя | Лапіцкі Аляксей Іванавіч | х.75-9-10 | 222160, г.Жодзіна, вул.Ф.Скарыны, 3-115 | 14.05.99 | 3 | 21 |





# ПРА ГВАЛТ НАД МОВАЙ

Пачну з фактаў палітычнага ўмяшання ў моўную практыку. Яно пачалося на пачатку 30-х гадоў і доўжыцца ўжо многія дзесяцігоддзі. Рэформу беларускай мовы, праведзеную ў 1933 годзе, сёння згадваюць амаль усе. А было ж і яшчэ нямала невядомых шырокаму колу ці забытых ужо бальшавіцкіх атак на нашу мову – мову-гаротніцу. “Колькі душылі яе і травілі, а не складае падбітае крылле, а ўсё жыве і ніяк не канае – песня азёрная, казка лясная...” (Г. Бураўкін).

Мала хто ведае, чым кіраваліся нашы “бацькі нацыі”, калі ў 1957 і 1959 гадах пры “ўдакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу” ўзаконілі замест *у* канчатак *а* для слоў *камунізм, сацыялізм, марксізм, ленінізм*. Мне расказваў пра гэта член-карэспандэнт АН Беларусі Міхаіл Рамановіч Суднік, які ў 1957 годзе ўзначаліў акадэмічны Інстытут мовазнаўства і ўдзельнічаў у складанні новых “Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі”. А змусіла яго падзяліцца са мною ўспамінамі такая нагода.

У 1978 годзе выйшла з друку перапрацаванае і дапоўненае выданне “Арфаграфічнага слоўніка” М. П.Лобана і М.Р.Судніка. Я апублікаваў у “Настаўніцкай газеце” рэцэнзію на гэты слоўнік. Адзначыў некаторыя хібы, выказаў асобныя пажаданні. Было, у прыватнасці, і такое: “Рэкамендуючы пісаць словы *камунізм, сацыялізм, марксізм, ленінізм* з канчаткам *а* ў родным склоне, аўтары чамусьці не прынялі пад увагу самы істотны крытэрый пры вызначэнні моўнай нормы – маўленчую практыку апошніх гадоў. У газетах, часопісах, іншых выданнях паслядоўна выкарыстоўваецца ў гэтых словах канчатак *у* (далей ішлі пацверджанні-прыклады з аўтарытэтных крыніц – новай Канстытуцыі, газеты “Звязда”). Праз нейкі час, будучы ў Менску, я заглянуў па справах у Інстытут мовазнаўства. Убачыўшы мяне, М.Р.Суднік завёў гаворку пра рэцэнзію, з некаторымі маімі заўвагамі згаджаўся, іншыя аспрэчваў. А наконт *камунізм-а (-у)* сказаў прыкладна гэтак: “Не так тут усё проста, як вам здаецца. Вы ж наўрад ці ведаеце, што перш чым пабачылі свет новыя “Правілы...”, іх шмат тыдняў разглядалі ў галоўным штабе камуністаў – ЦК, а потым і нас запрасілі туды. Усё высокае начальства было там, усе паказвалі сябе нібыта вялікімі знаўцамі мовы, уносілі папраўкі. Асабліва абурыла некаторых тое, што ў праекце “Правілаў...” у лік *абстрактных назоўнікаў*, сярод іншых з суфіксам *-ізм- (рэалізм, патрыятызм, феадалізм, дарвінізм...)* трапілі і гэтыя чатыры словы. “Як гэта вы, — саромілі іх нас, – *сацыялізм*, які мы ўжо даўно пабудавалі, які стаў для ўсіх працоўных нашых рэальнасцю, *лічыце нейкай абстракцыяй?!* І *камунізм* не *абстрактна-разумовае* паняцце, а наша рэальнае, блізкае заўтра! Што, і *ленінізм* для вас *абстрактнасць?!*” Нехта з нас асмеліўся быў сказаць, што граматыка ў паняцце “абстрактныя назоўнікі” ўкладвае свой пэўны сэнс, але – дзе там! І слухаць не хочуць, і рота раззявіць не даюць. Так і мусілі ўвесці ў “Правілы...” *гэтыя чатыры словы як выключэнне – з канчаткам а*”.

А вось другі факт гвалтоўнага ўмяшання.

Улетку 1938 года на самую высокую партыйную пасаду ў Беларусь прысылаюць з Масквы чарговага сталінскага стаўленіка ў Менску – П.К.Панамарэнку (родам з Краснадарскага краю). Азнаёміўшыся са справамі, Першы сакратар ЦК КП (б) Б піша Сталіну вялізны сакрэтны ліст “О белорусском языке, литературе и писателях”. Гэты жахлівы дакумент з былога партыйнага архіва 15 кастрычніка 1993 года апублікавала на сваіх старонках “Літаратура і мастацтва”. Яго немагчыма пераказаць... Запынім увагу толькі на двух момантах.

З пісьменнікаў тады засталося на волі толькі 14 чалавек. Астатніх або знішчылі, або вывезлі далёка-далёка. Пра Янку Купалу і Якуба Коласа Панамарэнка, просячы рады ў Сталіна, піша, што “іх трэба або арыштаваць, або, улічваючы абставіны, прыняць, пагаварыць..., заклікаць іх да сумленнай працы..., скарыстаць у мэтах разлажэння групы, адрыву найбольш чэсных і блізкіх рэшткаў нацдэмаўшчыны”. Відаць, Сталін даў дазвол пакуль што не арыштоўваць, а “скарыстаць у мэтах разлажэння...”

У лісце да “бацькі Сталіна” Панамарэнка просіць падтрымаць пачатую “вялікую работу па ачыстцы беларускай мовы”, здзекуецца з дзесяткаў нашых слоў (*уздым, змагар, лазня, сябр, гонар, казачны...*), а наконт лозунга *“Пролетарии всех стран, соединяйтесь”* даносіць, што нацдэмы замянілі слова *“соединяйтесь”* словам *“злучайцеся”*, “а в народе *“злучайцеся – злучка”*, всё равно, что и по-русски *“случайтесь – случка”*.

Пра гэту *“злучку”* згадвае і Аўген Калубовіч – пісьменнік, вучоны – гісторык, асветнік, які пасля трохгадовага зняволення за “палітыку” працаваў настаўнікам, а з 1939 года быў кансультантам-метадыстам па беларускай мове ў Наркамаце асветы. Але паколькі ў яго ных успамінах фігуруе Грэкава, спачатку некалькі слоў пра яе. Надзея Грэк – мянчанка з няпоўнай сярэдняй адукацыяй. Калі ж пры Панамарэнку яе, ва ўзросце 28 гадоў, “абралі” сакратаром ЦК, а пасля і старшынёй Вярхоўнага Савета БССР, перарабілася на рускую *Надежду Грекову*.

А цяпер дадзім слова А.Калубовічу (яго ўспаміны змяшчаліся ў часопісе “Маладосць”, у дзесятым нумары за 1992 год): “Грэкава загадала ўнесці ў правапіс дзве зробленыя ёю “папраўкі” ў лозунг *“Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!”* Па-першае, слова *“злучайцеся”* замяніць на *“яднайцеся”*, бо вось яна як сакратар ЦК часта падпісвае “дырэктывы” калгасам, што ўжо пара пачынаць *“злучную кампанію для скота”*, таму заклік *“злучайцеся!”* у дачыненні да пралетарыяту “неяк нядобра гучыць”. Па-другое, у слове *“яднайцеся”* пачатковае *“я”*, хоць і стаіць у першым складзе перад націскам, павінна пісацца праз *“е”*, бо могуць быць выпадкі, тлумачыла Грэкава, калі слова гэтае пры пісьме ці друку трэба пераносіць, і тады пры падзеле яго можа выйсці *“яд-”*. Для палітычнага лозунгу гэта недапушчальна, ЦК партыі на гэта не можа згадзіцца”.

Ёсць у Калубовіча і пра тое, як па ініцыятыве той самай Грэкавай (Грэк) ды яшчэ Папкова (сакратара Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР) Менск сталі пісаць праз *“і”*, *воблась* – без прыстаўнога *“в”*, бо “з ім гэта слова рэжа вуха, як бы яно – ад *вобла*”.

Добрым словам успамінае Калубовіч дацэнта Кастуся Гурскага, тагачаснага вучонага сакратара акадэмічнага Інстытута літаратуры і мовы. Як хваліцца сам Гурскі, ён на аргумент Папкова, што *воблась – “як бы ад вобла”*, нібыта сказаў, што тады і *камсамол – як бы ад камса*. Не ведаў Калубовіч, што гэты ж Гурскі, на словах асуджаючы Грэкаву і Папкова, амаль у той жа час піша дакладную на імя Панамарэнкі. Яна не так даўно апублікавана (Полымя. 1994. № 10). У ёй чытаем: “Ворагі народа, шпіёны і дыверсанты, ажыццяўляўшыя шкодніцтва ў БССР, скажалі беларускую мову і ў прыватнасці беларускі правапіс, імкнучыся скарыстаць лінгвістычны фронт у сваіх гнюсных мэтах. Правапіс быў прадметам іх шматгадовай шкодніцкай работы. Пачаць хоць бы з таго, што першы правапіс у 1918 г. адпрацаваў і склаў шпіён і правакатар Тарашкевіч. Асноўныя яго “прынцыпы” застаюцца ў сіле і па сённяшні дзень, у прыватнасці хоць бы перадача акання на пісьме... У беларускім правапісе існуе правіла, згодна з якім ненаціскныя *“о”*, *“е”* пішуцца праз *“а”*, *“я”*... Гэта правіла таксама мае толькі варожы сэнс. Галоўная яго мэта – стварыць штучны бар'ер паміж рускай і беларускай мовай... Такое правіла губіць пісьменнасць па рускай мове ў беларускіх школах, бо вучні павінны траціць двайную энергію на засваенне рускай арфаграфіі, якая штучна адрозніваецца ад беларускай...”

Панамарэнка, саноўны навічок у мовазнаўстве, улічыў падказку дацэнта Гурскага і даводзіць Сталіну да ведама, што ў Беларусі “ўведзена як непарушны прынцып аканне, г.зн. напісанне *“а”* не пад націскам замест *“о”* і *“я”* замест *“е”*. Напрыклад, *“горад”*, *“вялікі”*, замест рускіх *“город”*, *“великий”*... Ці, напрыклад, *“Ворошилов”*, пішацца *“Варашылаў”*. Гэта розніца, як і многае іншае штучна ўведзенае, абцяжарвае засваенне рускага і беларускага правапісаў беларускімі школьнікамі, бо дзве мовы ў школе вучыць неаднолькавым правілам”.

Праўда, Панамарэнка і яго памагатыя не паспелі механічным адміністрацыйным шляхам ліквідаваць аканне, а заадно дзеканне ды цеканне – гэтыя спрадвечныя істотныя рысы беларускай мовы. Можа, перашкодзіў пачатак Другой сусветнай вайны. Не да таго было...

Калі заглянуць у гісторыю, дык мусіш пагадзіцца, што гвалт над нашай мовай пачаўся задоўга да Панамарэнкі, яшчэ ў дасавецкія часы. Аж тры стагоддзі нас то варылі ў катле паланізацыі, то смажылі на патэльні русіфікацыі. Пачынаючы з другой паловы мінулага стагоддзя, русіфікатарскі махавік гвалту набывае ўсё большы разгон. Уключаюцца тры асіміляцыйныя рычагі ўздзеяння: рускае начальства, руская школа, праваслаўная царква.

Яшчэ генерал Мураўёў, ахрышчаны мянушкай “Вешальнік”, пасля задушэння паўстання 1863-1864 гадоў гаварыў (ва ўнісон з графам Уваравым): “Што не змог зрабіць рускі штык, даробіць руская школа”. Гэты крывавы кат, як гаворыцца ў “Нарысах гісторыі Беларусі” (Мн., 1994. С.334), не давяраючы мясцовым настаўнікам і чыноўнікам, асабліва католікам, амаль цалкам замяніў іх выхадцамі з цэнтральных расейскіх губерняў, прывабіўшы павышэннем аkладу на 50 працэнтаў і перспектывай хуткай кар'еры. І пачалося “дароблiванне”...

У савецкі час яно набывала ўсё большыя тэмпы. Абнавіліся рычагі ўздзеяння. Месца праваслаўнай царквы заняў марксізм-ленінізм.

Добра разумеў агромністую ролю новай “рэлігіі” і рускай школы ва ўмовах Беларусі і той жа Панамарэнка. Толькі ён не гаварыў пра гэта так аголена, як Мураўёў ці граф Увараў. У ліку чарговых задач, пра якія Панамарэнка паведамляе Сталіну, на першы план ставіцца: “Разгарнуць глыбокую работу па паднясці ідэйна-палітычнага ўзроўню інтэлігенцыі, па яе палітычным выхаванні, паклаўшы ў аснову гэтай работы вывучэнне марксізму-ленінізму, гісторыі ВКП (б) па выпушчаным падручніку “Кароткі курс гісторыі ВКП(б)”.

Другая задача: “Пачаць вялікую работу па ачыстцы беларускай мовы... ад усяго наноснага, антынароднага. Пачаць работу па выпраўленні граматыкі”. Яшчэ адна задача: “Павялічыць колькасць рускіх школ, ліквідаваўшы каласальную перагружанасць гэтых школ, і задаволіць поўнасцю жаданне насельніцтва навучыць дзяцей на рускай мове, канешне, за кошт новых школ, таму што рэарганізацыя некаторай колькасці беларускіх школ у рускія хоць і з'яўляецца практычна мэтазгоднай, але палітычна недапушчальная”.

Звернем увагу на апошнія словы. Тады яшчэ, у канцы 30-х гадоў, рэарганізацыя беларускіх школ у рускія лічылася “палітычна недапушчальнай”. Але гэта быў часовы тактычны манеўр. Стратэгія ж маячыла ў формуле трыяды: адна дзяржава – адзін народ (савецкі) – адна мова (сумненяў не было, якая гэта мова).

Масавы перавод беларускіх школ у рускія пачаўся ў 60-я гады і да гарбачоўскай перабудовы дасягнуў свайго апагею. І ўсё рабілася нібыта не толькі са згоды, але і па жаданні саміх бацькоў. Ды, зрэшты, яно і праўда: бацькі не аказвалі супраціву. Яны дбалі пра лёс дзіцяці, разважалі: куды ж яно прыткнецца пасля заканчэння беларускай школы, калі ўсё вакол па-руску?! І заводы, і ўстановы, і тэхнікумы, і універсітэты... Праўду кажуць, што няма лепшага спосабу звесці мову, чымся пазбавіць яе практычнай карысці.

Не трэба забываць і пра магутнае агітацыйна-прапагандысцкае ўздзеянне. Па сутнасці, нам рознымі сродкамі ўводзілі ў вушы, што наша мова “мужицкая, деревенская” і што ёсць “великий, могучий, правдивый и свободный русский язык”. Нам убівалі ў галаву (і сёння ўбіваюць) прыдуманую тысячагадовую агульнасць гісторыі, культуры і мовы ў рускіх і беларусаў, навязвалі і навязваюць чужую мову, чужую гісторыю, чужых герояў.

Вялікадзяржаўнікі, прышлыя і “свае”, ушчэнт “разбэсцілі вялікі мой народ”, — пісаў Пімен Панчанка. 21 жніўня 1989 года ён занатаваў у сваім дзённіку: “Высмеялі народ, беларускую мову, не вучылі чвэрць веку роднай мове (забаранілі) нашых дзяцей, а пасля нам кажуць: “Ніхто не разумее беларускай мовы, ніхто не хоча на ёй размаўляць і вучыцца”.

Сёння некаторыя, асабліва з тых, што і самі прычыніліся да вынішчэння беларускай мовы, нібыта з клопатам паціскаюць плячыма: “А чаму ж гэта яна апынулася на мяжы вымірання?” У адказ просяцца словы Янкі Брыля: “Кот з'еў мыш і азіраецца, куды яна падзелася. Так і з беларускай мовай”.

На пачатку 90-х гадоў, пасля таго як развалілася апошняя ў свеце імперыя, і ў нас пачалося было адраджэнне Бацькаўшчыны. Беларусь стала суверэннай краінай. У новай Канстытуцыі беларуская мова замацоўвалася як дзяржаўная. 76 працэнтаў першакласнікаў пайшлі ў 1994-1995 навучальным годзе ў беларускія школы. Але вельмі ж хутка прыліў змяніўся адлівам. Усё вярнулася на кругі свае. Пасля двух вядомых рэферэндумаў на Беларусь глядзяць у свеце з непрыхаванай іроніяй. З'явіўся і анекдот. Здаецца, яго дарэчы тут прыгадаць: “Праз нейкі час пасля таго, як у Беларусі адбыліся адзін за другім два рэферэндумы, у чукчаў паміраў шаман. Пазбіраліся яны ўсе, чакаюць, што ён скажа напаследак, якія запаветы дасць. І вось шаман сабраўся з сіламі і кажа: — Першае: беражыце стрэльбы паляўнічыя, бо без іх мы нішто... Другое: беражыце аленяў, бо для нас гэта і адзенне, і абутак, і мяса, і чумы. Трэцяе: беражыце беларусаў, каб не вымерлі. Бо, не дай Бог, гэта здарыцца, тады ўвесь свет самай нікчэмнай нацыяй будзе лічыць нас – чукчаў”.

А гвалт над мовай працягваецца. Толькі ён цяпер двухбаковы. З аднаго боку, як і раней, дзейнічаюць улады. А з другога – льюць ваду на млын улады тыя, што лічаць сябе самымі шчырымі беларусамі і адзінымі сапраўднымі знаўцамі беларускай мовы. Але гаворка пра гэта – у другім артыкуле.

*Іван Лепешаў,*
*доктар філалагічных навук, прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.*

# Заўчасна патухлая зорка

**(да васьмідзесяцігоддзя са дня смерці Івана Луцкевіча)**

Чалавек можа пражыць доўга і пры гэтым плённа працаваць. У яго будзе размераны лад жыцця: усё спланавана, прадумана да дробязяў. Але такі чалавек не можа "гарэць" ідэяй, не можа аддаваць сябе да апошняй кроплі вызначанай мэце. На гэта здольна толькі асоба, лідар. Такім лідарам апантаным беларускай ідэяй і быў Іван Луцкевіч. Вось як гаварыў пра свайго паплечніка і брата Антон Луцкевіч: "…галоўным цэментам, які звязаў гэтыя цэнтры і каардынаваў іх работу, быў першы тварэц Б.Р.Г.—Іван ". І яшчэ: "Дзякуючы нязвычайнай рухавасці і энергіі Івана ды ягоным старым сувязям з Вільняй, мы хутка ўвайшлі ў віленскую работу…".

Іван Луцкевіч нарадзіўся 28 мая 1881 года ў Шаўлях Ковенскай губерні. У той час бацька яго Іван Якімавіч працаваў на чыгунцы і паходзіў са збяднелай шляхты старажытнага роду ў Менскай губерні, аб чым сведчыць фамільны герб Навіна. Неўзабаве бацьку пераводзяць у Лібаву. У 1890 годзе Іван пачынае вучобу ў Лібаўскай гімназіі. Хутка сям'я вяртаецца ў Менск у дом маці. У 1897 годзе памірае бацька і Іван вяртаецца ў Менск, дзе працягвае вучобу гімназіі і заканчвае яе ў 1902 годзе ды паступае на юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта і адначасова ў Архелагічны інстытут.

Не гледзячы на тое, што бацькі яго размаўлялі дома па-польску, Іван і Антон добра ведалі жыццё простага беларуса, яго гаворку. Першыя крокі ў працы на беларускай ніве былі распачаты яшчэ ў Менску ў сценах гімназіі, але больш актыўная дзейнасць распачалася ў Пецярбургу. У канцы 1902 года закладзена культурна-асветніцкая арганізацыя – Кружок Беларускае Народнае Асветы. У сваёй праграме было пастаўлена: друкаванне беларускіх кніжак і тварэнне беларускае школы для народа. Гэта бадай, што першы крок да актыўнай палітычнай і грамадскай дзейнасці Івана Луцкевіча. І ў 1903 годзе ўлетку ён атрымлівае першае баявое хрышчэнне: арыштаваны і знаходзіцца ў турме. Тут жа прымае ўдзел у галадоўцы палітвязняў і тут жа ён захварэў. Пэўна гэта і ёсць пачатак той хваробы (сухотаў), што заўчасна абарвала яго жыццё. Тут жа ў яго ўзнікае думка аб стварэнні рэвалюцыйнай арганізацыі і ўжо ўвосень 1903 года яна паўстае. Нават назоў – Беларуская Рэвалюцыйная Грамада – прыдумаў сам Іван Луцкевіч. Створана арганізацыя была ў сталіцы Расейскай імперыі, але яе дзейнасць хутка пераносіцца на тэрыторыю Беларусі з цэнтрамі ў Менску і Вільні.

Акрамя палітыкі Іван Луцкевіч знаходзіць час займацца і навукаю. Заканчвае Архелагічны інстытут і атрымлівае камандзіроўку для навуковых доследаў на Беларусь і для далейшае навукі ў Вену. Паездку за мяжу скарыстоўвае для знаёмства з нацыянальна-вызваленчымі рухамі паняволеных народаў. Ужо ў той час ён марыць стварыць першы беларускі музей.

Сапраўды здзіўляе ягоная працавітасць, уменне адначасова займацца разнастайнай дзейнасцю, усюды быць наперадзе. 1905 год быў багаты на палітычныя падзеі і браты Луцкевічы прымалі ў іх самы непасрэдны ўдзел. Пад пагрозай арышту напачатку 1906 году яны пакідаюць Менск і пераяджаюць у Вільню. Тут даводзіцца быць на нелегальным становішчы. І ў гэтым непростым выпадку зараджаецца думка выдання незалежнай бела-рускай газеты. І тут паўстае "Наша Ніва", рэдактарам якой становіцца Іван Луцкевіч. Каля рэдакцыі фармуецца, той беларускі асяродак, які стане стрыжнем беларускага адраджэння таго часу.

Адначасова вядзецца праца па стварэнню беларускага музея. Прыкладам ў 1914 годзе яму ўдаецца знайсці ў вёсцы Сорак Татар пад Вільняй незвычайную кнігу –Аль Кітай, па якой маліліся беларускія татары яшчэ з часоў Вітаўта, напісаная арабскімі літарамі па-беларуску. Ён, бадай, быў больш практыкам, чым тэарэтыкам. Выступаў з лекцыямі, пісаў рэфераты, перад Першай сусветнаю вайною выкладаў гісторыю мастацтва ў артыстычнай школе Рыбакова ў Вільні. Акрамя гэтага ўмеў трымаць цудоўныя прамовы. У гады вайны прыпыняецца выхад газеты "Наша Ніва", але Іван Луцкевіч не прыпыняе сваёй грамадскай дзейнасці, актыўна працуе ў Беларускім камітэце дапамогі пацярпелым ад вайны. Паводзіцца і асветніцкая праца, у лістападзе 1915 года ў Вільні адкрываецца першая беларуская пачатковая школа. І ў тым заслуга Івана Луцкевіча. У хуткім часе працуе ўжо ніць беларускіх пачатковых школ.

У 1918 годзе ён стварае ў Вільні Беларускае навуковае таварыства і ўзначальвае яго ды паступова перадае яму свае зборы беларускай старасвеччыны. Паўстае рэальная магчымасць стварэння першага беларускага музея, якога яму не давялося пабачыць. Музей быў адчынены толькі праз два гады пасля яго смерці ў Базыльянскіх мурах у 1921 годзе і праіснаваў дваццаць пяць гадоў.

Сапраўды, які імпэт быў у гэтага чалавека, якая самаахвярнасць беларускай справе. На працягу 1918-1919 гадоў улады ў Вільні мяняліся вокамгненна, а ён дабіваецца дазволу і адкрывае беларускую гімназію ды працуе яшчэ там выкладчыкам.

Тым часам яго здароўе пагоршваецца. У палове чэрвеня 1919 года Іван Луцкевіч выяжджае на лячэнне ў Польшчу, у Закапанае. Хвароба запушчана і 20 жніўня ён там памірае.

Вось такі жыццёвы шлях таго, хто пачынаў беларускае Адраджэнне напачатку нашага стагоддзя.

*Язэп Палубятка.*

# Давайце спяваць па-беларуску

## Гурт "Камелот"

### Краіна талераў

Музыка і словы З.Сідаровіча

*C*
Ідзем у далячынь,
*F C*
Кіечак на плячы.
*F*
А што наперадзе, а што
*G C FG*
наперадзе, а што наперадзе?
*C*
Глядзім вакол мяне,
*F C*
Глядзім таксама вакол цябе –
*F*
Краіна верасу, краіна
*G C*
верасу, краіна верасу!
*F*
Гэй, любата, знайшоў я
*C*
талер на дарозе!
*F*
Канец яму, шукаў карчму,
*G*
мо адпачынем.

Карчомка за сьпіной
І два кілішкі ў ёй
Ня дужа танныя.
Ня дужа танныя.
Мы зьвесялелі ўраз,
І гэтак добра, што ёсьць у нас
Краіна талераў.
Краіна талераў.
Краіна талераў.

### Саколе

Музыка А.Кішкіна; словы З.Сідаровіча (арыгінал у Cm)

*Em C H7 G H7*
Вой, ляці, саколе, у чыстое поле
*Em C H7 Em*
У чыстае поле, дзе пануе воля!
Вой, дзядзьку, ня доля мне ляцець у поле
Полечка нячыста, у полі крумкачыста,
Сьмерці тое поле, бойкі вялікое,
Сечы з маскалямі, чорнымі палкамі.
Сьпяць на ім жаўнеры, хлопцы – касінеры.
Ветрык ім шапоча, затуляе вочы.
Вой ня трэба, птушка, ім трывожыць душы
Як ляцяць шкадоба і дуды жалоба.
Пайду я, саколе, крыж пастаўлю ў полі,
Крыж каля дарогі – нашай перамогі.

### А дзе ж тыя ваяры?

**Народная песня.**

*G D CG C G DGC G*
А дзе ж тыя ваяры, што са мной хадзілі ў Крым?
*DG D C G C G DGC G*
Гэй, гэй,гэй, во-ха-ха, што са-мной хадзілі ў Крым?
А дзе ж тыя іх мячы, што з пляча ўмелі сячы?
Гэй, гэй,гэй, во-ха-ха, што з пляча –умелі сячы?
Не адсядзецца нідзе, зноў чужынец к нам ідзе.
Гэй, гэй, гэй, во-ха-ха зноў, чужынец к нам ідзе.
Лукі гнуцца ды ў дугу, дадуць рады ворагу.
Коні капытамі б'юць, ваяроў ды панясуць.
Гэй,гэй,гэй, во-ха-ха,ваяроў ды панясуць.
Будзе, будзе зноў бітва, будзе вольнаю Літва!
Гэй,гэй,гэй, во-ха-ха, будзе вольнаю Літва!
А як скончым ваяваць – будзем піці ды гуляць.
Гэй,гэй,гэй, во-ха-ха, будзем піці ды гуляць.
(Выконваецца ў тэмпе марша.)

# Вам жа свецяць ліхадзеям зоркі ясныя Крамля

Дарагія сябры! З таго часу, як Парламент 12 склікання абмяркоўваў законапраект аб дзяржаўным статусе беларускай мовы, з выступлення дэпутата А.Лукашэнкі па моўным пытанні мне стала зразумела, што "патрыёты"-камуністы раённага ўзроўню ненавідзяць беларускасць і ўсімі сіламі змагаюцца супраць яе. Прыйшоўшы да ўлады начале з А.Лукашэнкам, яны пачалі актыўна і з лютай нянавісцю вынішчаць на беларускай зямлі яе нацыянальны дух.

Прапаную свой верш на гэтую тэму. У ім 2 часткі– і ў 2-й часцы 4 радкі ("Вам жа свецяць…") нарадзіліся тады, як народнага паэта Н.Гілевіча бальшавікі-ленінцы ставілі да сцяны за тое, што яго камісія распрацавала і прапануе да прыняцця Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы. А ўсё астатняе – у той дзень, як былі аб'яўлены вынікі першага рэферэндуму, праз які прэзідэнт Лукашэнка рукамі самога народа ўдушыў мову нацыі.

Дэпутаты – партакраты.
Вы – дзяржаўныя мужы,
Распінаеце Айчыну
Як Ісуса на крыжы.

Рукі – ногі ёй скавалі,
Горла сціснулі пятлёй,
Каб і слова не сказала
Мовай роднаю сваёй.

А сягоння вы ў хаўрусе
З галавой краіны ўсёй
Палажылі ў дымавіну,
Пеяце "за ўпакой".

На хаўтуры запрасілі
Люд з душою змардаванай
І хавалі, як прыблуду –
Без жальбы і без пашаны.

Хоць вясна была ў разгары –
Кветкі долу не ўсыпалі,
Слоў удзячнасці не чулі,
Ёй аркестры не гралі.

Толькі дзесьці за далінай
Адгукнуўся бор сасновы:
Рэха з вечару да ранку
Гаманіла роднай мовай.

У садку ж па-над парканам
Вішні ў квецені стаялі
І ціхутка аж да рання
Роднай мовай галасілі.

А на лузе куст каліны
Над магілкай нахіліўся—
Гэта ён у цяжкай скрусе
Мовай любаю маліўся.

Васілёчкі ў спелым жыце
Не падымуць больш галоўкі:
Удушылі ў Беларусі
Нашай любай Маці слоўка.
Без яго сыны знямелі:
— Зганьбавана мова Маці!
Як нам зараз у застоллі
Між сабою размаўляці?
—Пакуль будзем сонца бачыць,
Пакуль будзем есці – піці
На пяшчотнай роднай мове
Будзем, браткі, гаманіці.
Вам жа свецяць, ліхадзеям,
"Зоркі ясныя Крамля",
Вас адрыне, прайдзісветаў,
Наша родная зямля!

У самоце дуб сагнуўся,
Да бярозы клён схіліўся,
У берагах прыціхнуў Нёман,
А Дняпро слязьмі заліўся.

Я ж надзеў жалобы строі –
За Святую стаў маліцца:
Веру, ёй Хрыстос паможа
На зло катам адрадзіцца!

*В.Скараход – былы выкладчык рускай мовы ў сярэдняй школе, пенсіянер. Менск.*

# Сонечнае зацьменне ў Менску

Апошняе сонечнае зацьменне тысячагоддзя можна было назіраць і ў Менску.

Фота Мікалая Пятрова, БелТА.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 30. 08. 99 г.
Наклад 3700 асобнікаў. Замова № 2233 .
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 60 000 руб., 3 мес.- 180 000 руб.
**Кошт у розніцу:** 15 000 руб.